*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 12(397)** **24 САКАВІКА 1999 г.**

# 25 сакавіка 81-я ўгодкі Беларускай Народнай Рэспублікі



## З нацыянальным святам вас шаноўныя беларусы

Рэдакцыйнай Калегіі
газеты "Наша слова", на рукі
Яго Міласці сп.Алега Трусава
п/с № 34
220095 Менск, Беларусь

### Дарагія абаронцы нашага роднага слова!

Ад імя Каардынацыйнага Камітэта Беларусаў Канады і свайго асабіста вітаю вас з 81-мі ўгодкамі Акту 25 сакавіка, 1918 году.

81 год таму назад 25 сакавіка ў Менску, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, як законны сувярэнны орган беларускага народа, сваёй Трэцяй Устаўной Граматай пад назвай Акту 25 сакавіка перад усім светам урачыста заявіла:

**"... Цяпер мы, Рада БНР скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнае залежнасці, якая была накінута расейскім царызмам на наш вольны і незалежны край.**

**Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнай і вольнай дзяржавай..."**

Словамі гэтымі Рада БНР абвясціла дзяржаўную незалежнасць Беларусі, ды парвала ўсякія дзяржаўныя сувязі з Расеяй, часткай якой дагэтуль была Беларусь.

Сёлета, у цяжкія для Беларусі часы, свята адзначаючы 81-я ўгодкі Векапомнага Акту 25 сакавіка, жадаем Вам добрага здароўя, непахіснай веры ў ідэалы 25 сакавіка, духовай сілы, вытрываласці і багатых плёнаў у Вашай надзвычай важнай працы накіраванай на карысць беларускай вызвольнай справы — змагання за аднаўленне дзяржаўнае незалежнасці Беларусі.

Жыве беларускі народ у змаганні!
Жыве Беларусь!

*Др. Раіса Жук-Грышкевіч, старшыня*

### Добры дзень, паважаная рэдакцыя!

Прашу праз вашае выданне перадаць маё віншаванне з угодкамі Беларускае Народнае Рэспублікі і Вялікаднем спадарыні Ангеліне Масюта, спадару Вячаславу Мілкоўскаму з Менска, шаноўнай сям'і Саевец з вёскі Тарасава Менскага раёна. У нялёгкі час яны высокародна забяспечылі маю сям'ю падпіскай на любімыя выданні "Наша слова", "Наша ніва", "Беларуская маладзёжная", а таксама бульбаю і рэчамі хатняга ужытку. Дасылаю віншаванні і словы падзякі спадарыні Тацяне Ванінай — лідару жаночага руху "Адраджэнне Айчыны" за салідарнасць і маральную падтрымку.

Жадаю маім дабрадзеям, калектыву рэдакцыі і чытачам газеты "Наша слова" шчасця, здароўя, заможнасці і працвітання!

*Ганна Шарамеццева, літаратар.*
*223. Менскі р-н, В.Куццаўшчына, вул.Брыкета, 5-30. тэл. 5088226 (Менскі гарадскі, "2" не набіраць)*

## Паважаныя чытачы!

Польскі ўрад акрэдытаваў спецыяльных карэспандэнтаў "Нашага слова" у сваёй краіне. Гэта беларускія журналісты, выдаўцы беларускамоўнага часопіса "Эпоха" Алена Стралкова і Сяргей Аўсяннік.

На трэцяй старонцы мы прапануем Вам першы іх рэпартаж з Польшчы, які падрыхтавала спадарыня Алена

## 500 год надання Менску Магдэбургскага права

Нацыянальная акадэмія навук Беларусі. Менскі гарвыканкам і гарсавет, Саюз мастакоў Беларусі і Беларускае Таварыства дружбы і культурнай сувязў з замежнымі краінамі планавала правесці 12 сакавіка ў Доме Дружбы навукова-практычную канферэнцыю пад назвай "Менск: 500 гадоў з часу надання Магдэбургскана права (да гісторыі органаў гарадскога самакіравання)".

Аднак напярэдадні гарадскія ўлады, спасылаючыся на рашэнне старшыні Савета Міністраў Сяргея Лінга, адклалі на няпэўны час правядзенне гэтай вельмі важнай навуковай і грамадскай падзеі. Тады Згуртаванне Беларусаў Свету "Бацькаўшчына" пры ўдзеле Скарынаўскага навукова-асветнага цэнтра правяло 12 сакавіка 1999 года Калоквіум "Да гісторыі гарадскога самакіравання Менска XI - XIX стст."

На Калоквіуме прагучалі 4 даклады: прафесара доктара гістарычных навук А.Грыцкевіча "Гарадское самакіраванне ў Менску паводле прывілея на Магдэбургскае права 1499"; доктара гістарычных навук, прафесара Г.Штыхава "Грамадска-палітычны лад Менска і Менскага княства ў XI - XIII стст."; кандыдата гістарычных навук, вядомага беларускага энцыклапедыста І.Хаўратовіча "Асвятленне самакіравання паводле Магдэбургскага права ў беларускіх энцыклапедычных выданнях"; і аўтара гэтых радкоў пад назвай "Гарадскія ратушы Беларусі ў XУІ-XУІІІ ст".

*Алег Трусаў, кандыдат гістарычных навук, дацэнт.*

Ад рэдакцыі: даклад Алега Трусава надрукаваны на 8-й старонцы.

## Чарговае адкрыццё выставы мастацкай суполкі "Пагоня" ў Менску

11 сакавіка ў Менску, у Палацы Мастацтваў па вуліцы Казлова дзевяты раз узнавіла сваю дзейнасць штогадовая выстава беларускіх мастакоў, аб'яднаных у суполку "Пагоня" прысвечаная 81-угодкам абвяшчэння БНР. На адкрыцці выставы прысутнічалі прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі, усіх дэмакратычных сіл Беларусі, айчынныя і замежныя журналісты, шматлікія беларускія пісьменнікі, мастацтвазнаўцы, мастакі і гісторыкі. Сярод вядомых палітычных дзеячоў Беларусі былі Сямён Шарэцкі, Юрась Хадыка, Міхаіл Чыгір, Юры Захаранка, Юрась Беленькі і іншыя. На адкрыцці выставы выступілі народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч, гісторык, прафесар Анатоль Грыцкевіч, мастак Мікола Купава.

Прысутныя адзначалі вельмі высокі ўзровень выставы, на якой акрамя твораў станковага жывапісу, былі прадстаўлены габелены, батык, скульптура, творы дробнай пластыкі, муляжы беларускага вайсковага адзення, знакі паштовай аплаты і маляўнічыя канверты, гравюры і акварэлі. Значная колькасць твораў была прысвечана розным этапам і дзеячам беларускай гісторыі і культуры, помнікам манументальнага беларускага дойлідства.

*Алег Трусаў.*

## Дзень добры, дарагія мае землякі!




З лістом звяртаецца да вас былая настаўніца роднай мовы і літаратуры. Так сталася, што амаль усё маё жыццё пасля заканчэння Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (а вучылася я разам з Марынай Барсток) прайшло ў Пінску, дзе я працавала ў школе. Зараз жыву ў Падмаскоўі, але не гублю сувязі з Беларуссю. Праўда, раней было працей. Выпісвала "ЛіМ", "Настаўніцкую газету", "Полымя". Цяпер жа, хоць і межы скасаваныя між Расеяй і Беларуссю, і слупы памежныя выкапаныя, але выпісаць хоць якое беларускае выданне немагчыма. Добра, што мае былыя вучні дасылаюць мне час ад часу цікавыя беларускія выданні, сёе-тое з перыёдыкі. І я, чытаючы іх, нібы разам з вамі, жыву вашым жыццём. Чытаю пра ўсё з прагнасцю, з захапленнем, адкрываючы для сябе новую Беларусь. Наша пакаленне, на жаль, у асноўным не разумела і не ведала шмат чаго. Мы былі ўпэўнены (а сярод маіх сяброў і знаёмых было шмат настаўнікаў, разумных, дасведчаных), што тэорыю пра "залаты век на Беларусі" выдумалі буржуазныя нацдэмы. Я не кажу пра шмат якія іншыя слаўныя старонкі нашай гісторыі, аб якіх я даведалася толькі нядаўна.

Люблю чытаць "ЛіМ", дзе змешчана многа матэрыялаў, што выклікаюць жаданне раздумваць, разважаць, гутарыць. Колькі цікавага, якія разумныя журналісты, крытыкі! Разнастайныя тэмы і форма змешчаных вершаў. І гучная, сапраўдная, прыгожая беларуская мова. (Ах, вось бы зараз у клас, да вучняў з такім словам!) Многа новых здольных паэтаў, і, што я заўважыла, сярод іх многа жанчын. Гэта таксама Адраджэнне!

"Наша слова" чытаю ад першага радка да апошняга. Мне ўсё цікава: і навіны ТБМ, і словы пра беларускую мову, выняткі з розных артыкулаў, і матэрыялы з нагоды юбілеяў тых, хто нёс і хто зараз нясе ў свет роднае слова. Мне здаецца, вельмі ўдалыя матэрыялы для маленькіх беларусаў, бо гэта ж наш заўтрашні дзень. А чытаючы артыкулы Паўла Сцяцко, хочацца выпісаць усе новыя, такія трапныя словы, якія арганічна кладуцца на музычнае гучанне нашай мовы. На жаль, шмат матэрыялаў выклікаюць трывогу, баліць душа за стан мовы, турбуе генацыд беларускай мовы, пра што з болем у сэрцы пішуць Ніл Гілевіч, Аляксей Саламонаў.

Разумею клопат лепшых сыноў Бацькаўшчыны пра беларускае слова, пра беларускую культуру. Але я ўпэўнена, што тое, чаго дасягнулі адраджэнцы, будзе жыць. Як сведчыць уся наша гісторыя, якія б нягоды не выпадалі на долю Беларусі, але ж заўсёды існавала нейкая патаемная сіла, што захоўвала адметнасць гэтай зямлі і людзей, якія жылі і жывуць на ёй.

Падрастае новае пакаленне змагароў за Бацькаўшчыну. Тое чароўнае зерне, што пасеяла Адраджэнне, насуперак усяму — узыдзе! І ўсіх за краты не пасадзіць. А такая расправа над юнакамі, якую ўчыняе ўлада, не запалохвае. Наадварот. Няўжо гэтую ісціну нельга зразумець? У сэрцы кожнага сумленнага чалавека, і маладога і сталага веку, такі прысуд выклікае толькі абурэнне і ўспрымаецца як злачынства.

Аптымізм мой мае падставы. Параўноўваю тое, чаго дасягнулі патрыёты Беларусі зараз, з тым, што было ў часы маёй працы. На беларускую мову ў школе адводзілі адну гадзіну, а беларускую літаратуру рэкамендавалі выкладаць па-расейску. У 1966 г. родную літаратуру не толькі знялі з экзаменаў, а можна было і адзнаку ў атэстат за год не запісваць — па жаданні вучняў і бацькоў.

Я пісала наконт гэтай абуральнай пастановы ў рэдакцыю "Настаўніцкай газеты" (магчыма, пісалі і іншыя), але адказу не было. Газета маўчала. І не знайшлося чалавека, які б выступіў супраць гэтага вандалізму (інакш такую з'яву не назавеш) адкрыта, не было каму наладзіць акцыі пратэсту супраць такой палітыкі савецкай улады.

І тым не менш я ўпэўнена: існуе повязь часоў і пакаленняў, існуе глеба, на якой нарадзіліся смелыя, адважныя людзі — патрыёты Беларусі. Значыць, будзе жыць Беларусь дэмакратычная з сваёй мовай, культурай, гісторыяй. Зарука таму — незалежная прэса, кнігі пра сапраўдную гісторыю Беларусі і беларускі народ, сённяшнія праблемы краіны.

З павагай —

*М.З.Сафро,*
*г. Пушчына, Серпухаўскі р-н, Расея.*

# З гісторыі беларускай мовы на Шклоўшчыне

Уздым нацыянальнага руху на Беларусі ў пачатку 90-х гадоў нарадзіў надзею, што нарэшце насталі спрыяльныя ўмовы для адраджэння беларукай мовы. Але працэс гэты быў нядоўга і ў хуткім часе надзею змяніла роспач. Неадназначна аналізуючы моўныя падзеі на Беларуі, у маіх думках міжволі ўзнікае пытанне: "А ці з'яўляецца беларуская мова ўвогуле "матчынай мовай" менавіта для нас, жыхароў Шклоўшчыны?"

Як вядома, першыя помнікі, напісаныя па-беларуску, захаваліся з 13 стагоддзя і находзяць яны галоўным чынам з земляў Полацкай і Смаленскай. У 14 стагоддзі беларуская мова стала гаспадарчай у новым беларускім гаспадарстве, вядомым у гісторыі пад назвай Вялікае княства Літоўскае. Шклоў мае непасрэднае дачыненне да гэтых зямель.

Найбольш раннее паведамленне непасрэдна аб мове ў тутэйшых мясцінах мне ўдалося знайсці, азнаёміўшыся з артыкулам Ганны Запартыкі "Страчаныя скарбы манастырскіх бібліятэк", надрукаванага ў часопісе "Спадчына" нумар 5 за 1997 год. Аўтар паведамляе, што ў Куцеінскім манастыры каля Оршы друкаваліся кнігі па-беларуску. У кнізе з гэтага манастыра, якая захавалася ў Віленскай бібліятэцы і датаваная 1669 годам, на старонках ёсць запіс: "Сию книгу глаголемую житие святых отец на монастыр Кутеенский пан Іван Кособуцкій мещанин Шкловскій," (Г.Запартыка. "Страчаныя скарбы манастырскіх бібліятэк". Часопіс "Спадчына" № 5 за 1997 год.) Можна спадзявацца, што шклоўскі мешчанін Іван Касабуцкі прадоўжыў справу беларускага першадрукара Францішка Скарыны і рабіў свой пачэсны ўклад у распаўсюджванне кніг на зразумелай "люду паспалітаму" мове.

Беларуская мова была дзяржаўнай у Вялікім княстве Літоўскім да канца 17 стагоддзя. Аднак у сувязі з палітычнымі абставінамі ў далейшым пачаўся яе занапад. Першыя перасталі гаварыць па-беларуску магнаты, а далей і звычайныя паноў. Носьбітамі роднай мовы заставаліся сяляне, збядненае мяшчанства і шляхта. Аднолькавыя працэсы адбываліся і ў нашых мясцінах. Пасля наведвання ў 1792 годзе Шклова вядомы рускі генерал С.А.Тучкоў напісаў: "Мы покинули Беларусь... Язык, употребляемый простым народом и земледельцами или крестьянами, весьма разнится от настоящего польского, употребляемого дворянством. Он ближе подходит русскому и не имеет такого набора латинских и немецких слов."("История Белоруси: вопросы и ответы". Минск, Беларусь, 1993 год, ст.69.)

Яшчэ доўгі час беларуская мова захоўвалася ў набажэнствах Уніяцкай Царквы і шматлікіх рымакаталіцкіх парафіях. Вось як апісвае жыццё ў вёсцы Фашчаўка сучаснага Шклоўскага раёна асветнік Казімір Сваяк у пачатку нашага стагоддзя: "Стройны касцёл, найвялікшы на Беларусі, ёсць асяродкам парафіі. Вакол яго расселася дзевяць вёсак каталіцкіх. Кругом гавораць чыстай мовай беларускай. Айцы Езуіты калісьці далажылі вялікай працы, каб беларус не страціў сваёй мовы. Выдалі яны беларускі катэхізм, навучалі па-беларуску, вучылі песняў...Хвашчоўка так добра перахавала свой беларускі характар, што сяляні дагэтуль убіраюцца ў строі народны." (К.Сваяк. "Адраджэнне Беларусі і Унія. Часопіс "Унія" № 1 за 1991 год.)

Новая вялікая хваля беларускага адраджэння пачынаецца ў пачатку сучаснага стагоддзя. 25 сакавіка 1918 года была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка, а ў 1919-1920 гадах – Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка. На дзяржаўным узроўні начынаецца праца па адраджэнню беларускай мовы. Часопіс "Прафесійны рух Беларусі" нумар 9 ад 1 ліпеня 1925 года ў артыкуле "Бярыце прыклад" паведамляў: "15 траўня ў Шклове адбыўся выпуск слухачоў курсаў беларускай мовы... Цяпер жа, дзякуючы таму, што працаўнікі савецкіх устаноў г.Шклова добра ўявілі сабе беларускую мову, селянін наш пачуе сваю матчыну мову не толькі ў школах, але і ў іншых установах." (С.Сулкоўскі. "Мова наша багацце". Газета "Ударны фронт" № 50 ад 1 мая 1990 года.

Выдатнае значэнне ў аднаўленні літаратурнай мовы ў гэты час паклалі беларускія пісьменнікі. Сярод гэтых дзеячоў знаходзіцца і Міхась Зарэцкі (Касянкоў). Дзяцінства будучага пісьменніка прайшло на Шклоўшчыне ў вёсцы Зарэчча. Менавіта пад уражаннем вёскі, якая раскінулася на супрацьлеглым ад Шклова беразе Дняпра, нарадзіўся і пісьменніцкі псеўданім. Але праца гэтая не была завершаная. Пры канцы 20-х гадоў бальшавіцкія ўлады абвінавацілі мовазнаўцаў у шкодніцтве і за некалькі хваляў рэпрэсій вынішчылі іх фізічна. Не мінуў гэты лёс і Міхася Зарэцкага. У 1933 годзе беларускай мове спешна, без грамадскага абмеркавання, дэкрэтам навязалі рэформу. Мэтай яе была "ліквідаваць штучны бар'ер паміж беларускай і рускай мовамі", гэта значыць спыніць развіццё беларускай мовы, пазбавіць яе непаўторнага аблічча.

Аднак мова не памерла. Ужо ў пасляваенны час Шклоўшчына нарадзіла новых пісьменнікаў. Гэта паэты Сцяпан Гаўрусёў, Яўген Крупенька, Анатоль Сербантовіч, Аляксандр Жыгуноў, празаік Уладзімір Шыцік і іншыя. Шмат гадоў працуе на Шклоўшчыне пісьменнік Лявон Анціненка.

Дык ці з'яўляецца беларуская мова для нас матчынай мовай? Мовай, якую, нягледзячы ні на што, нашы продкі пранеслі праз вякі, праз польскую і расейскую экспансію?

Так! Гэта наша спрадвечная мова. Як і наша зямля, на якой мы жывём больш за тысячу гадоў.

Ну а што ж мы, сучаснікі?.. Няўжо бязвольна і пакорліва адмовімся ад мовы продкаў?

Сусветная гісторыя сведчыць, што высокі ўзровень развіцця эканомікі і сацыяльнай справядлівасці падуладны толькі таму народу, які, абапіраючыся на сваю нацыянальна-культурную спадчыну, адраджзіўся ў першую чаргу духоўна. Іншага шляху да лепшага жыцця проста не існуе.

*Сябра Таварыства Беларускай Мовы імя Ф.Скарыны А.Грудзіна.*

## Каб не ўмерла мова беларуская..!

Разумныя людзі кажуць, што нацыю ствараюць школы і царква. Якую ж нацыю ствараюць сёння нашы школы? Адказ адназначны — не беларускую. А пра царкву наогул гаварыць няма што. Сёння некаторыя людзі крычаць на абаронцаў мовы: "Абрыдлі вы са сваёй мовай. Яна не корміць!" А на пытанне якая мова корміць, адказа не даюць. А што ж гэта мы за народ будзем без гэтай самай мовы? Без мовы на якой размаўляюць — гамоняць рэкі і лясы гэтай зямлі, нівы гутаркі вядуць, шчабечуць птушкі. Мы без роднай мовы не людзі нават, не то што патрыёты. Трэба, каб у школах было дастаткова беларускай літаратуры, газет, навучанне вялося на беларускай мове.

Панацэя — нацыянальная ідэя. Толькі яна з'яднае, згуртуе народ, прынясе спакой і стабільнасць у дзяржаву, забяспечыць росквіт эканомікі культуры. Забяспечыць школы неабходнай беларускай літаратурай у дзяржавы няма сродкаў. Гэта добра ведае дырэктар малога прадпрыемства "Заходняя", што размешчана на ўскраіне г.Камянца Берасцейскай вобласці Мартысюк Анатолій Ісаакавіч. Ён праявіў чуласць да школ і за свае сродкі на паўгода выпісаў газету "Наша слова" на ўсе 20 сярэдніх школ раёна, а на дзве школы г.Камянца дадаткова яшчэ выпісаў часопіс "Радавод", што выдаецца ў Бярэсці.

Ад імя ўсіў дзяцей і настаўнікаў Камянецкага раёна выказваю шчырую падзяку Анатолю Ісаакавічу Мартысюку, горача і сардэчна віншуем з Вялікаднем, зычым моцнага здароў'я, бадзёрага настрою, поспехаў у працы і асабістым жыцці. Хай смутак вачэй Вашых добрых не росіць, ці сонейка захад, ці сонейка ўсход, заўсёды побач з Вамі будуць Вера, Надзея, Любоў.

Добрай долі і Божай ласкі Вам.

*Іван Жытка г.Камянец*

## Звычайная непісьменнасць

Тое, што мова наша беларуская вынішчаецца, ні для каго ўжо, на жаль, не сакрэт. Вынішчаецца і вынішчалася яна здаўна, мэтанакіравана і на дзяржаўным узроўні. То рэформы рознага кшталту, то рэферэндум, а то і звычайнае затлумліванне галоў тым, што на гэтай мове нельга стварыць нешта выкшталцонае, сваю справу зрабілі. Усё горш і горш мы сваю мову ведаем ды даводзім яе, гаротніцу, да такога стану, што сапраўды яна можа выклікаць толькі мальбу да нас з боку тых, хто сваю нацыянальную мову зберагае.

Неяк днямі завітала я на пошту. На вялізарным стале пад шклом раскладзеныя ўзоры, як што патрэбна пісаць і што рабіць, калі вам раптам закарцела выправіць недзе ў свет ліст або парадаваць сваіх родзічаў беларускім салам. Калі ласка, ўсё падрабязна патлумачана на беларускай мове. Але ці на беларускай? Цытую: *"Пасылкі адпраўленыя па даручэнню іншых грамадзян, а таксама асобам, якія не маюць сведчых(!) дакументаў, прымаюцца толькі ў адкрытым выглядзе, з поўнай праверкай уклада АВІА пасылкі. Звычайная і з адзнакай пасылкі павінны быць упакованы ў пасылачныя скрынкі, картонныя, драўляныя, фанерныя, а таксама ў мяккую абалочку (!) (тканіну). Мяккая абалочка (тканіна) служыць для ўпакоўкі пасылак з адзінакавымі (!) прадметамі верхняга адзення, каўровых (!) вырабаў і г.д., не ўваходных (!) па сваіх памерах у пасылачную скрынку!!"*

Неяк я вычытала ў ЛіМе, як адна бабулька слухала-слухала па радыё дыктарку, якая быццам бы на беларускай мове нешта казала, а пасля не вытрымала ды і паждала: "Каб ты тое з'ела, што сказала!" Гэтак і хочацца далучыцца да той бабулькі ды пажадаць некаму: "Каб ты тое з'еў, што напісаў"!

*Лілея Сазанавец.*

## Павел Сцяцко,

*доктар філалагічныхнавук, прафесар, старшыня Гарадзенскай абласной рады ТБМ імя Францішка Скарыны*

# "З чужой моўнай практыкі..."

Працяг

***Слухаўка і трубка*** (тэлефонная). Слова ***трубка*** шматзначнае. ТСБМ (Т.5. Кн.І.Мн.,1983.С.254) адно з іх апісвае гэтак: "Частка тэлефоннага апарата, якая служыць непасрэдна для слухання і гаварэння". Улічваючы прызначэнне гэтай прылады — трубка для слухання, яе і назвалі ***слухаўка***: "Значыць, нешта здарылася. Што? Трэба патэлефанаваць. Азіраючыся па баках. Ясь пайшоў да тэлефона-аўтамата. Слухаўку падняла Яніна, — Ты дома? — толькі і змог вымавіць Ясь" (Полымя. 1995. №6. С.104-105). "Часам званіў тэлефон, і дачка Саша брала слухаўку" (Полымя. 1998. №7.С.24).

Слова ***слухаўка*** мае выразную матывацыю. Утварылася ад дзеяслова ***слухаць*** з выкарыстаннем суфікса ***-аўк-а (оўк-а)***: ***слух(аць)-аўка***. Вытворныя з гэтым суфіксам абазначаюць прадметы, з дапамогаю якіх выконваецца дзеянне: ***мігаць — мігаўка, калаціць — калатоўка, пырскаць — пырскаўка***. Як сведчыць акадэмічная "Беларуская граматыка" (Ч.І. Фаналогія. Арфаэпія. Марфалогія. Словаўтварэнне. Нацыск.-Мн.; Навука і тэхніка, 1985.С.242), словаўтваральны тып з гэтым суфіксам набывае прадуктыўнасць у гутарковай мове.

Намінацыі з коранем ***слух*** — як абазначэнне прылады для слухання (тэлефоннай трубкі) уласцівыя і іншым славянскім мовам: славацк. ***sluchadto***, чэшск. ***sluchatko***, польск. ***sluchawka...***

Лексема ***слухаўка*** стасуецца і з аналітычным найменнем — ***слухавая трубка***, ад якога шляхам кандэнсацыі ("сціскання") магла ўзнікнуць аднаслоўная (сінтэтычная) намінацыя: ***слухав(ая трубка) +-ка >слухаўка.***

Узнікненне адмысловае назвы — ***слухаўка*** — для трубкі (тэлефоннае) — натуральная з'ява: мова імкнецца да дыферэнцыяцыі найменняў пры абазначэнні розных рэаліяў. Гэта досыць выразна выяўляецца, калі параўнаць лексічную сістэму беларускай мовы з расейскаю. Напрыклад, рас. сало у беларускай мове мае 6 адпаведнікаў. РБС-98 (Т.3.С.279) засведчыў: " Сало ср.(жир) тлушч; (свіное) сала; (нутраное, свіное) здор: (баранье, говяжье) лой; (гусиное) шмалец; (жидкое, топлёное)тук". Або: "Сарай м. (для скота) хлеў; (для сена) пуня, адрына; (для дров) павець, паветка; (для повозок) вазоўня" (Тамсама. С.239).

Дый да слова ***трубка*** беларуская мова мае свае адмысловыя адпаведнікі. У згаданым РБС-98 чытаем: ***"Трубка ж. І. трубка; 2. (свёрток) скрутак; (полотна) сувой; 3. (для курения) люлька"*** (Т.3.С.553). А цяпер маем яшчэ адну адметную намінацыю — ***слухаўка.***

***Самапавучальнік — а не самавучыцель.*** Нашыя сучасныя слоўнікі рас. ***самоучитель*** падаюць без перакладу, толькі напісанае паводле беларускага правапісу: ***"Самоучитель — самавучыцель; самоучитель шахматной игры — самавучыцель шахматнай гульні"*** (РБС-82.Т.2.С.352). Аднак беларускай мове словы з суфіксам ***-цель*** неўласцівыя. Рас. ***учитель*** адпавядае бел. ***настаўнік, слушатель - слухач, проситель — просьбіт, воспитатель — выхавальнік*** ды інш. Дапаможнік (падручнік) для навучання чаму-небудзь самастойна, без дапамогі кіраўніка — ***самапавучальнік***. "Прадаю самапавучальнік ангельскай, ірландскай мовы з касетаў" (Пагоня. 6.08.1998.С.6).

Гэтае складанае слова — ***самапавучальнік*** — мае другою часткаю кампанент — ***навучальнік***. Яго як асобнае слова падаюць РБС-82 і РБС -98 як адэкват рас. учащий: "Учащий І.прич. які (што) вучыць; які (што) навучае; 2. сущ. навучальнік; собрались учащиеся и учащие — сабраліся навучэнцы і навучальнікі" (РБС-82.Т.І.С.548). Гэты артыкул паўтарыў без усякіх зменаў і РБС-98 (Т.3.С.645).

Дык чаму не падаць да рас. ***самоучитель*** беларускі адэкват ***самапавучальнік***, калі мы маем слова ***навучальнік*** з значэннем "які навучае". Але ж дзеля найхутчэйшага набліжэння беларускае мовы да расейскае замест свайго пазычыці чужое. Між тым "Русско-белорусский словарь" 1953 года падаваў тут сваё адмысловае: "Самоучитель — самавучнік; самоучитель шахматной игры — самавучнік шахматнай гульні" (С.605).

Улічыўшы, што ў беларускай мове больш пашыраныя словы з прыстаўкаю ***на-*** (навучанне, навучыць, навучальны ды інш.) і самы прадукцыйны аддзеяслоўны суфікс ***-льнік***, варта прызнаць найбольш прыдатнае слова ***самапавучальнік***. Яно мае і надта выразнае матываванне: ***самапавучальнік — сам навучае*** (без настаўніка). Гэтая аднаслоўная намінацыя добра стасуецца і з аналітычнаю назваю ***самапавучальны*** дапаможнік, ад якога ён таксама мог узнікнуць (шляхам кандэнсацыі): ***самапавучальнік*** (***ая*** кніга) ***-ік***.

*(На гэтым заканчваецца чарговая серыя нашай рубрыкі "З чужой моўнай практыкі", але калі Павел Сцяцко ласкава прышле працяг, то будзе працяг.)*

Наша слова № 12(397) 24 САКАВІКА 1999 г.





# "Падрыўны інструмент Захаду"

***Расейская газета "Правда" нядаўна назвала Беларускую рэдакцыю Польскага Радыё "падрыўным інструментам Захаду". Прапануем нашым чытачам інтэрвію з спадарыняй Нінай Баршчэўскай, кіраўніком рэдакцыі гэтага радыё.***

**- Скажыце, калі ласка, спадарыня Ніна, як атрымоўваецца захоўваць роднае слова ў Польшчы?**

- У Польшчы цяжка захоўваць роднае слова. На Беласточчыне, дзе кампактна пражываюць беларусы гэта рабіць лягчэй. Многія беларусы гэтага рэгіёну размаўляюць па-беларуску, карыстаюцца ў штодзённым жыцці, або літаратурнай мовай, або рознай беларускай гаворкай. У такіх гарадах, як Варшава - гэта цяжэй з увагі на малую колькасьць беларусаў. Але, аказваецца, што і гэта магчыма. Ёсць прыклады сем'яў, якія ў сваім штодзённым жыцці карыстаюцца родным словам.

У Беларускай рэдакцыі Польскага радыё журналісты паміж сабой заўсёды размаўляюць па-беларуску. Таксама і на кафедры беларускай філалогіі, дзе і супрацоўнікі і студэнты гавораць па-беларуску. Хаця, там ёсць шмат студэнтаў, якія толькі пачынаюць вучыць нашую мову. Яшчэ ёсць групы беларусаў і ў Гданьску. Гэта Таварыства беларусаў "Хатка".

**- Скажыце, якая канцэпцыя Беларускай праграмы Польскага радыё?**

- Мы стараемся інфармаваць пра розныя рэчы, стараемся быць усебаковымі. Безумоўна, асноўнае заданне польскага радыё інфармаваць беларусаў пра ўсе тыя падзеі, якія адбываюцца ў Польшчы. Мы апавядаем аб рэформах, якія цяпер Польшча стараецца ажыццявіць. Гаворым і аб падзеях на Беларусі. Напрыклад аглядаем матэрыялы польскай прэсы, дзе мова ідзе пра Беларусь. Чарговая тэма - гэта сустрэчы з усімі прадстаўнікамі розных арганізацыяў, партыяў на Беларусі, якія прыязжаюць у Польшчу. У сёняшні момант супрацоўніцтва паміж урадавымі установамі шмат у чым немагчыма, але шмат прыязджае ў Польшчу палітыкаў, навукоўцаў, грамадскіх дзеячаў з розных арганізацыяў, бывае часамі і беларуская апазіцыя. Таму, мы стараемся не траціць кантактаў з Беларуссю і па меры магчымасці паказваць беларусам Беларусі, што гэтыя кантакты існуюць і з якой мэтай прыязжаюць прадстаўнікі паасобных арганізацыяў сюды. А чарговая тэма - гэта апавяданне пра жыццё беларусаў у Польшчы. Шмат месца мы прысвячаем жыццю беларускай меньшасці ў Польшчы.






Ніна Баршчэўская

Яшчэ адна досыць істотная справа ў нашым эфіры, гэта інфармацыя з Беларусі. На нашую думку сёння інфармацыя на Беларусі аднабаковая, я маю на ўвазе афіцыйныя сродкі інфармацыі, бо яны поўнасцю манапалізаваныя.

**- Часамі можна пачуць, што ваш эфір бывае слаба чуваць. Што Вы робіце для паляпшэння чутнасці?**

- Вы ведаеце мы маем розныя інфармацыі аб чутнасці. Гэта залежыць ад мясцовасці. Мы вяшчаем на кароткіх хвалях, таму чысціня эфіру залежыць ад вільготнасці, адлегласці і г.д. Таму нашыя праграмы значна лепш чуваць на Усходзе Беларусі, чым у заходніх рэгіёнах. Нас найлепей чуваць на Віцебшчыне. Мы маем там паштовую скрынку. У Віцебску ёсць клуб прыхільнікаў Беларускай рэдакцыі Польскага Радыё. Але мы вяшчаем і па спадарожніку і хто мае магчымасць слухаць гэтыя перадачы не павінен скардзіцца.

Аднак, тое што нас слухаюць сведчыць факт, што па атрыманню лістоў з Беларусі мы знаходзімся на трэцім месце. Нас апярэджвае толькі нямецкамоўная праграма і эсперанта. Беларуская рэдакцыя атрымала 671 ліст з Беларусі і 1030 рапартаў. Ужо ніжэй ідуць ангельская, чэская, літоўская, украінская, расейская праграмы. Гэта сведчыць што нас не толькі слухаюць, але і вядуць з намі перапіску. І гэта нас цешыць.

**- Скажыце з кім Вы супрацоўнічаеце на Беларусі і як гэта супрацоўніцтва выглядае?**

- З нашага ранейшага супрацоўніцтва - з журналістамі "Радыё 101,2", якая была зачынена. Мы працягваем сумесную працу, атрымліваем ад іх матэрыялы з Беларусі, а потым гэта інфармацыя на нашых хвалях вяртаецца зноў да грамадзянаў Беларусі. Апроч "Радыё 101,2" мы супрацоўнічаем, бяручы пад увагу гісторыю нашага радыё, з "Беларускай маладзёжнай", з другой праграмай Беларускага радыё куды даём кароткія агляды важнейшых падзеяў у Польшчы. Супрацоўнічаем таксама з радыёстанцыяй "Сталіца" - дасылаем інфармацыю аб найважнейшых тыднёвых падзеях жыцця сталіцы Польшчы Варшавы. Аднак, найбольш цеснае супрацоўніцтва ў нас з "Радыё 101,2", журналісты якога маюць у нашым эфіры свой дваццаціпяціхвілінны блок, які складаецца і з аўтарскіх перадачаў, і з размоваў і справаздачаў з розных падзеяў на Беларусі. Напрыклад, у апошні час былі спецыяльныя праграмы пра пікет Таварыства Беларускай Мовы ў дачыненні да перапісу насельніцтва. Такім чынам, кожны дзень дваццать пяць хвілінаў інфармацыі вяртаецца на Беларусь.

**- Калі ласка, некалькі слоў для чытачой "Нашага слова".**

- Па першае нас вельмі цешыць факт што атрымалася ўзнавіць вашую газету, тым больш у даволі цяжкі час. Я хацела-б пажадаць трапіць вашай газеце да як найшырэйшых колаў чытачоў. Беларуская мова на Беларусі не ў пашане, хаця з'яўляецца мовай дзяржаўнай. Аб гэтым сведчыць і апошні перапіс насельніцтва, дзе пытанні надрукаваны выключна на расейскай мове. Таму вашая газета робіць вельмі карысную справу. Хочацца пажадаць рэдактару і супрацоўнікам "Нашага слова" поспехаў.

**- Дзякую, за размову.**

***Размаўляла***
***Алена Стралкова***

# "ЭПОХА" пра эпоху

Аб страшэнных злачынствах камуна-дыктатарскіх рэжымаў і марах аб будучыні нашай інтэлігенцыі чытайце ў першым нумары "ЭПОХІ" за гэты год.

Нарэшце, можна зразумець, што бамбёжкі Ірака праз амерыканскія і ангельскія вайсковыя самалёты - гэта не канфлікт, як падаюць маскоўскія і расейскамоўныя беларускія выданні - паміж ЗША і Іракам, а канфлікт паміж ААН і краінай, якая вядзе агрэсіўную навакольную палітыку і не пушчае міжнародных назіральнікаў на свае вайсковыя аб'екты, дзе, амаль без сумневу, распрацоўвае ядзерную зброю.

З тэмы нумара "Злачынцы і ахвяры" чытачы даведаюцца - ці будзе суд над Чырвонымі Кхмерамі ў Камбоджы, што ж на самой справе адбывалася ў Чылі з 1973 года і ці панясе Пінfamочэт крымінальную адказнасць, а таксама пра "жанчынаў з групаў роскашы" у Паўнонай Карэі і аб спалучэнні камунізму з "рынкам" на Кубе.

Алег Трусаў, намеснік старшыні БСДГ і Сяргей Антончык, адзін з лідэраў працоўнага руху Беларусі, ў інтэрвію часопісу фармуюць сваё разуменне нацыянальнае ідэі і "аб'яднання апазіцыі". А Генадзь Быкаў і Станіслаў Шушкевіч ужо аб'ядналіся ў адносінах да прэзідэнцкіх выбарах. Хаўрус Беларусі з Расеяй прынёс беларусам толькі страты, а Польшча робіць паступовыя крокі ў кірунку рэформаў і ўжо мае вынікі - друкуе "ЭПОХА".

А ці ведаеце Вы, што "праваабронца" Валеры Шчукін, на самой справе абараняе сваё "социалистическое Отечество" і яшчэ два гады таму выказваў думкі не сумяшчальныя з беларускай телерантнасцю - пра "сусветную змову пад кіраўніцтвам Масаду" і "славянскае брацтва". Менавіта, кпінай з правоў чалавека называе часопіс "ЭПОХА" ў рэдакцыйным артыкуле ўручэнне ўзнагароды Аргкамітэта Хартыі-97 "антысеміту" Шчукіну. Каштоўнае спалучэнне слоў "абаронца правоў чалавека" не можа быць індульгенцыяй на нянавісць, расавую варожасць, не можа стаць шырмай для людзей з артадаксальнымі антылюдзкімі поглядамі, нават калі яны церпяць і становяцца ў апазіцыю да сваіх былых сяброў па ідэалогіі. Сталін Троцкага таксама не любіў, аднак іх барацьбу нельга асвяціць тым, што хтосці з іх змагаўся за "правы чалавека".




Яшчэ шмат цікавага можна прачытаць у часопісе, у тым ліку і канчатак кнігі "Улада і грамадства". "ЭПОХА" прапануе прыняць удзел у конкурсе на карыкатуру і беларускі комікс.

Свежы нумар часопіса можна набыць у Таварыстве Беларускай Мовы, у сядзібе БНФ, у сядзібе БСДГ, або ў АГП.

# "Справа тонкая".

***Странная вещь, непонятная вещь...***
***"Никто не мог толком никогда обьяснить и оправдать, почему несомненные пороки и грехи для личности — надменность, самомнение, эгоизм, ложь, лицемерие и коварство — оказываются добродетелями и доблестью для государства и нации..."***

***Николай Бердяев.***

З 15 лютага ўступілі ў сілу зменены пастановы летувіскага ўрада для пасажыраў, перасякаючых дзяржаўную мяжу. Хто адсвяткаваў Дзень Незалежнасці Летувы — 16 лютага, адны, а для іншых — чарговыя клапоты, перашкоды і праблемы. І, у першую чаргу, для нашага брата — беларуса, даведзенага да стану "раба" прыніжанага, бяспраўнага. А цяпер усё па парадку.

Па апошняму перапісу насельніцтва ў Летуве пражывала каля 64 тысяч беларусаў. Зараз можа крыху менш. Пражываюць у асноўным у Вільні, гэта беларусы, якія прыехалі ў савецкі перыяд з памежных раёнаў Беларусі, працавалі на прадпрыемствах саюзнага значэння, даўно не працуюць тыя прадпрыемствы, а рабочыя хто, дзе ўладкаваўся. Многія ездзілі да бацькоў, дапамагалі, адпаведна і бацькі дапамагалі. З 15 лютага тыя, хто прыбывае ў Летуву не больш чым на 3 сутак, павінны мець 300 літаў пры сабе не менш, альбо адпаведна ў валюце (75$), а тыя хто прыбывае ў Летуву больш, чым на трое сутак павінны мець 100 літаў, альбо 25 даляраў на кожныя суткі. Нашыя бацькі, якія жывуць у вёсцы, можа такіх грошай і не бачылі, калі атрымоўваюць пенсію 3 даляры. Не ўяўляю, хто з жыхароў Беларусі зможа прыехаць?

Акрамя таго, пасажырам забаронена цалкам увозіць у Летуву мяса і яго субпрадукты, яйкі, сметанковае масла, сыры, тварог, кілбасы, а алкагольныя напоі ўвозіць забаронена ўвогуле, акрамя паветранага і марскога партоў. Напрошваецца пытанне: "Дзе ж мы жывём?" Краіна, якая імкнецца ў Еўропу і прыкідваецца цывілізаванай. Прадуктовыя крамы ў Летуве запоўнены рознымі прадуктамі харчавання, у розных крамах розны кошт, шмат прыватных шапікаў, былі б толькі грошы. Узровень жыцця, таксама, ніяк нельга параўнаць з суседняй Беларуссю, а адносіны да нацыянальнай культуры, мовы, ды што там гаварыць, яны заўсёды былі такімі. Таму і вырашылі забараніць увоз, каб абараніць сваіх жа фермераў. Толькі наўрад ці папоўніцца бюджэт Літвы. Толькі бедныя пласты грамадства куплялі прадукты харчавання ў беларусаў за нізкі кошт у параўнанні з коштам лтувіскіх прадуктаў. А колькі выпала знявагаў на іх з боку летувіскіх і беларускіх памежнікаў і мытнікаў.

Ды і гандлююць прыезжыя не па кірмашах, бо трэба заплаціць за месца, а дзе давядзецца. Пра іх апошнім часам шмат пісалі газеты летувіскія. Напрыклад, газета "Вячэрнія навіны", 12 лютага 1999 г. піша, што паліцэйскія на кірмашы Гале шмат аштрфвалі беларусаў ад 500 да 2000 літаў, ўзбудзілі 15 крымінальных спраў за гандаль гарэлкай. Яшчэ паліцэйскія зацвярджаюць, што "некаторыя 60-70 гадовыя беларускі з'яўляюцца сапраўднымі аферыстамі: на просьбу паліцэйскага прайсці на ўчастак яны падаюць на зямлю, крычаць, што іх гвалцяць, пачынаюць біцца, нападаюць на паліцэйскіх, дзяруць іх, рвуць асабістыя рэчы. А некаторыя вільнюсцы карыстаюцца бяспраўем беларусак: бяруць прадукты і не плацяць за іх, а ў час затрымання беларусак спрабуюць украсці іх рэчы, грошы, нават з рук паліцэйскіх". Каментарыі тут не патрэбныя. Чытаеш, а мне, напрыклад, жах, сорам, жаль, крыўда за маіх суайчынніц. Даведзена да такога стану краіна, жанчына. Яны ж едуць з перашкодамі не ад лёгкага жыцця, і не каб зарабіць, а каб выжыць. Іх, прыніжаных, сарамліва хаваючых твары, паказвалі па летувіскаму тэлебачанню ў праграме "Нядзеля". І на пытанне журналіста: "Як вы там, у Беларусі, жывяце?" Адказваюць: "Добра". Баяцца сказаць то, што ёсць. Сапраўды чэхаўскія героі, як бы чаго не выйшла. Таму і маюць, тое што маюць, за іх выбранае, ці з іх маўклівай згоды. І жывуць па прынцыпу, абы вайны не было.

Да такога ж стану даведзены і беларусы Летувы. Апошнія, новыя палажэнні для тых, хто перасякае дзяржаўную мяжу, у першую чаргу датычыцца беларусаў, яны часта ездзяць да бацькоў. І цяпер кожны прыязджае і распавядае нейкія абсурды, не толькі ўсё выкідваюць з сумак, але і "аблапаюць" кожнага, шукаючы крыміналу. Бо цытую газету "Рэспубліка" ад 11 лютага 1999г. "Калі мытнік знойдзе ў вас прыхаваны бутэрброд з каўбасой, то можаце дачакацца заслужанага пакарання. З такімі выпадкамі знаёмыя тыя хто перасякаў мяжу з Беларусі ў Летуву, а тыя хто ехаў з Польшчы, палажэнне на іх не распаўсюджваецца, як бы. Гэта не толькі парушэнне элементарных правоў чалавека, але і прыніжэнне, знявага. Абмяркоўваюць у вузкім коле, многія плачуць ад бязвыхаднага становішча і на гэтым канец. Бо ведаюць, ніхто абараняць не будзе. Хаця ёсць беларуская амбасада, ёсць прэзідэнт беларускіх суполак, ёсць віца-прэзідэнты. Ну і што. Былі б на месцы беларусаў габрэі, чачэнцы, летувісы, ці нават, украінцы, ведаў бы ўвесь свет. Нармальная, цывілізаваная краіна клапоціцца аб сваіх суайчынніках за мяжой. Урэшце, чаму тут здзіўляцца? Калі беларусы, як нацыя, самыя прыніжаныя і растоптаныя на сваей этнічнай радзіме, мова ў стане парабчанкі, то адсюль і вынікі. Летува ўстанавіла бязвізавы рэжым з Аўстрыяй, Германіях, Галандыяй і т.д. А з суседняй Беларуссю, з якой жылі ў адзінай вялікай дзяржаве, праўда летувісы аб гэтым перыядзе не любяць успамінаць, наадварот. Хутка і камар не праляціць. Ну што ж, нацыянальнае пытанне — справа тонкая.

***Леакадзія Мілаш, Вільня.***

ШЛЯХАМІ ПАЭТА

У краі сінявокім наваградскай зямлі
Таму год дзвесце нарадзіўся
Хлапчук шляхецкае сям'і.

На божы свет з'явіўся
Калядчай ночкаю святой,
Агеньчык лёсу запаліўся
У небе зорачкай жывой.

Завоскі двор прыняў сваё дзіця,
Якое ўславіць край прыгожы
І пройдзе шлях вандроўнага жыцця.

Хлапчыну ў лютым ахрысцілі,
І наклалі бацькі – Адамам.
Хрышчэннем спробу смерці адхілілі,
А Маці Божая яго вярнула нам.

Гады дзіцячыя прайшлі ў Навагрудку.
Дамініканскую наведваў школу там.
Блажэй яму настройваў казак дудку.
І безліч песень ад служанак чуў Адам.

Пад іх уплывам чуйным, годным
Пачаў складаць уласны верш.
Вучыў граматыку жыцця з народам,
На мове, што пачуў найперш.

За першы верш быў пакараны строга,
Дырэктар не даў веры ў талент хлапчука.
У карцары адседзяў дзень нябога –
Такі быў ганарар для юнака.

Студэнтам стаў Адась універсітэта,
Там Таварыства Філаматаў заснаваў,
І для сваёй Радзімы ўсім аўтарытэтам
Адданых патрыётаў рыхтаваў.

Але надоўга наталялі смагу
Гаючым сокам роднае зямлі.
Сто чалавек за ведаў прагу,
Вырвалі з вучонае раллі.

Было ў яго жыцці вялікае каханне.
І гэтае ён зведаў пачуццё.
Туганавічы, першае спатканне
І ідэал на цэлае жыццё.

Агонь Марыля ў сэрцы запаліла,
І хлопец трызніў ёй, яе кахаў.
Яна ж і мары ўсе разбіла,
Бо лёс яе за іншага аддаў.

Пяць год правёў паэт у вандраванні:
Адэса, Пецярбург, Масква.
А "Крымскія санеты" – думкі, спадзяванні,
Што кліч падасць яму Літва.

Аднак ізноў дарогі і вандроўкі,
Нямецкія страчаюць гарады.
Здаецца, што не будзе і канцоўкі
Тым падарожжам і шляхам нуды.

Глыбокі боль за лёс краіны
Гняце і цісне майстру на пяро,
Ідуць то "Свіцязянка", то "Гражына" –
Нясуць даўнейшае і вечнае дабро.

Міцкевіч сумаваў па той краіне,
Айчыне мілай, роднай, дарагой.
І "Пан Тадэвуш" – гімн Радзіме
Ўжо ажываў пад вешчаю рукой.

І мераў хоць чужыя мілі,
З сябрамі сувязь не губляў:
Дамейку пасылаў лісты у Чылі
І вобраз Янака ў сэрцы шанаваў.

Любіў радзіму, і ніякай сіле,
Сагнуць сябе ніколі не даваў.
Натхнёны духам часу ў тым парыве
Сам вызваленчы легіён арганізаваў.

А важнай вехай у жыцці Адама,
Была газета, Міжнародны камітэт.
Ён верыў: не загіне волі справа,
І вернецца Літва ў свабодны свет.

Гаротны, пакручасты лёс выгнанца
Ў турэцкую заносіць старану.
Тады ён едзе ў якасці пасланца,
Зноў легіён падняць свой на вайну.

Але бязлітасная смерць схапіла
Ў Канстанцінопалі паэта – змагара.
У Кракаве з'явілася магіла,
А плакала ліцьвінска – беларуская зямля.

*Людміла Грышко*
*Ёдкаўская сярэдняя школа Лідскага раёна*

# Зямля пад белымі крыламі

**28 сакавіка ў Лідзе пройдзе фінал гульні "Зямля пад белымі крыламі". Сёлетняя гульня была прысвечана 200-годдзю вялікага сына нашай сінявокай Беларусі, адданага патрыёта нашага Вялікага княства Літоўскага, вялікага земляка і паэта Адама Міцкевіча. Гульню традыцыйна арганізуе Лідскі гарадскі цэнтр дзіцячага і юнацкага турызму і экскурсій пры падтрымцы Лідскіх арганізацый ТБМ. Адным з этапаў гульні быў конкурс на лепшае сачыненне па тэме "Шляхамі паэта" Газета "Наша слова" з'яўляецца адным з фундатараў гульні. Таму па просьбе журы конкурса мы друкуем чатыры лепшыя сачыненні.**



ШЛЯХАМІ ПАЭТА

Свіцязь прачыналася паволі. Было чуваць, як возера ціха ўздыхала пасля кароткага летняга сну, хацела яшчэ крышачку працягнуць апошнія хвіліны развітання з ноччу. Але ранак браў сваё – скінуў з возера белую коўдру туману, і ўжо праз імгненне сонца мыла свае промні ў яшчэ халаднаватай вадзе.

Новы дзень першым вітаў салавей. Спачатку ціха, нясмела, а потым усё больш і больш заўзята лілася яго песня, абуджаючы ўсё навокал. Птушачка адчувала сваю поўную свабоду і працягвала ставіць свой ранішні канцэрт нават тады, калі ўбачыла, што да куста падышоў юнак і ўжо некалькі хвілін сачыў за ёю.

… Адам яшчэ ўчора прыехаў у Наваградак, прыехаў толькі на некалькі дзён. На душы было цяжка – у горадзе не засталося ні блізкіх, ні сяброў. Юнак хадзіў па вуліцах свайго горада, стараўся супакоіць сябе ўспамінамі аб тых цудоўных днях дзяцінства, якія жылі ў сэрцы да гэтага часу, аднак замест спакою адчуваў трывогу, нібы хадзіў ён тут апошні раз.

Цяпер Адам стаяў ля Свіцязі, слухаў спевы салаўя і разумеў, што на свеце ёсць нешта вечнае, як гэта песня, і трывалае, як гэта зямля.

Адам любіў кожны куточак Свіцязі. Яшчэ калі быў маленькім, не раз прыязджаў сюды. Вось як цяпер бачыць ён ужо старога рыбака, што сядзіць на беразе возера і расказвае маладому Адасю казку пра незвычайных русалак, якія ноччу водзяць карагоды, або пра свіцязянак,вадзяных німфаў, што з'яўляліся на беразе возера. А вось тры дубы, пра якія расказваў легенду парабак Блажэй. Казаў, што дубы – гэта не дрэвы, а воіны-асілкі, што не пусцілі ворагаў у свой родны горад. Помніў Адам і песні вясковых дзяўчат пра сірату-бярозку, пра адзінокі каласок жыта, пра ранняе сонейка, што не дае дзяўчыне паспаць. Словы ў песнях, казках, легендах былі такія дзіўныя, меладычныя, зразумелыя, яны так кранал і душу, што сам аму хацелася складаць. Адам помніць свае першыя вершы. Ён пісаў пра хату, лес, поле, рэчку. Але засталіся гэтыя творы толькі для яго.

Юнак спыніўся. Вось тут яшчэ зусім нядаўна ён чытаў свае вершы Марылі. І не баяўся, што дзяўчына яго не зразумее, бо кожны радок быў прысвечаны ёй. Адам кахаў Марылю. Яна была яго марай аб шчасці. Мо і Свіцязь хлопец так любіў, што вочы каханай былі падобны на возера, такія ж глыбокія і чароўныя. Цяпер Марылі побач не было, яна ўжо пяць месяцаў замужам за графам Путкамерам.

Юнак лёг на траву, здаецца, адчуў дыханне зямлі, сэрца стукала мацней, і Адаму падалося, што з усім гэтым ён не развітваўся ні на хвіліну. А яно і сапраўды жыло з ім заўсёды. Ці быў хоць дзень у жыцці хлопца, каб у Вільні ці ў Коўне ён не ўспомніў бы родных лясоў, лугоў, палёў з мэндлікамі жыта, чыстых крыніц, Свіцязі, Наваградка, Марылі? Гэта яны натхнялі паэта, давалі сілу раскрыцца таленту, падказвалі тэмы і вобразы. Ды і паэтам яго нарадзіла, узгадавала і выхавала гэтая зямля. Адам Міцкевіч будзе ўдзячны роднаму кутку ўсё жыццё.

А сёння ён яшчэ паспее пасадзіць дубок тут, на беразе Свіцязі. Маленькае дрэўца вырасце, і яго магутныя карані стануць непарыўнай повяззю Паэта і яго Радзімы.

Новы дзень набіраў сілу. Салавей ужо не спяваў. Але песня яго жыла. Яна плыла на хвалях возера, яе перадавалі дрэвы, нёс на сваіх крылах матылёк. Яна жыла ў душы Адама Міцкевіча, песня яго роднай зямлі, вечнай зямлі. Вечнай стала і песня паэта.

*Алена Цярлецкая, 11 "А" клас,*
*сярэдняй школы № 15 г. Ліды.*

ШЛЯХАМІ ПАЭТА

Родная мая Беларусь! Колькі горкіх слёз праліла ты, колькі пакут і няшчасцяў ведала твае сэрца, што балела за сыноў беларускіх! За сыноў, што так самаадданна і пяшчотна любілі цябе – простую і небагатую краіну, прыгожую блакітнавокую Беларусь.

Родная мая, твае слёзы ліліся, нібы кроплі дажджу на ўзаранае поле, і, як маладыя парасткі, прабіваліся на свет людзі, што ўсё больш і больш ганарыліся табой, любілі і паважалі. І ні вятры, ні страшныя ўраганы ніколі не пахіснулі іх любові да цябе, тваёй мовы, тваіх традыцый.

А ці памятаеш ты, колькі гарачых і неверагодна салёных слёз праліла ты па сыну свайму Адаму? Што адчула ты, калі родную крывінку адарвалі ад грудзей тваіх?

Гора, няшчасце, пакута … Яны зноў паланілі сэрца і нібы сціскалі, душылі душу. Цяжкі стогн пранёсся па ўсёй краіне, ён чуўся ў кожным куточку: "Божа, за што, за якія грахі?!

Так, больш Адама ты не ўбачыла. Аднак, родная, ты выхавала добрага сына. Бо і на чужбіне ён быў заўсёды з табою. Кожную ноч, нібы чароўную дзяўчыну, бачыў ён цябе ў сне. Ты прыходзіла да яго і дарыла пяшчоту, такую ж самую, як у дзяцінстве, калі Нёман лашчыў слых малога хлопца, і роднае неба абдымала за плечы.

А ці ведаеш ты, як пакутаваў ён без цябе,як цяжкія думкі і пачуццё страты самага дарагога разрывалі яго сэрца? І не ведаю, што адбылося б, каб не падтрымала Міцкевіча паэзія ўсёй сваёй прыгажосцю і мнагаграннасцю.

Яго вершы паліліся ракой пачуццяў і перажыванняў. Там можна было ўбачыць і чыстую, празрыстую, як сонечны прамень, любоў да радзімы, да кожнага кусціка і травінкі, і непамерную тугу па страчанай назаўсёды Бацькаўшчыне, і горкія слёзы выпакутаванага, але нешчаслівага кахання.

Паэтычным радком сын твой хацеў паказаць прыгажосць тваю ўсяму свету, каб кожны даведаўся аб дзівосных легендах і паданнях тваіх, мілагучнай, гаворкай, непаўторнай мове тваёй.

… Пасля Міцкевіча былі і іншыя, якія таксама аддалі табе ўсё жыццё, любілі і ганарыліся табою, нягледзячы на адлегласць, якая паўстала паміж вамі. І іх агульнай малітвай гучаць праз стагоддзі словы Паэта: "Калі ж дазволіш, Божа, мне ў той край вярнуцца. З выгнання горкага, каб дома апынуцца…"

*Марыя Мігаль, 10 "Д" клас,*
*сярэдняя школа № 16 г. Ліды.*

ШЛЯХАМІ ПАЭТА

Як цяжка жыць у гэтым складаным сусвеце, на які, нібы кроплі моцнага дажджу, льюцца беды і пакуты. Мы, нібы вандроўнікі на гэтай планеце, гінем у страшэннай віхуры бязлітаснага жыцця.

І толькі тады, калі зашчыміць сэрца, крык адчаю вырвецца з грудзей, ад болю і крыўды з'явяцца слёзы на вачах, мы звяртаемся да светлых і чыстых слоў Адама Міцкевіча, якія напаўняюць нашы душы прыгожымі, узнёслымі марамі, якія вяртаюць да жыцця, адаграваюць шчарствелыя людскія сэрцы. Трапяткія, чулыя і ў той жа час пяшчотныя словы Міцкевіча, ніби нязведаная, нястрымaная стыхія, ахопліваюць нас, уводзяць у новы свет, дзе няма месца надзённым праблемам, холаду чалавечых адносін, бесчалавечнасці людскіх слоў, а ёсць толькі шчырасць пачуццяў, чысціня і дабрыня людскіх вачэй, якую можам убачыць і адчуць.

Кожнае слова паэта, нібы рэхам, адгукаецца ў маім сэрцы і адразу перад вачыма паўстае вобраз заўсёды стрыманага, разважлівага Адама Міцкевіча, задуменны позірк якога накіраваны некуды ўдаль.

І толькі сэрца зашчыміць мацней і кроў, нібы гарачая лава, разальецца па венах, калі ўспомню, праз што давялося прайсці маладому МІцкевічу, як стаў ён вечным вандроўнікам-пілігрымам, як бачыў ён і Пецярбург, і Крым, куды, нібы тая гнаная снегам і вятрамі пералётная птушка, завітаў наш паэт. Ды толькі птушкі гэтыя кожнай вясною звыклымі шляхамі вярталіся дахаты, а ён мог толькі пасланць з імі прывітанне, спадзяючыся, што, магчыма, дома блізкія і родныя, пачуўшы іх крык, успомняць аб ім. Толькі знясіленая ад выпрабаванняў чалавечая душа, на якую паставіла свой адбітак суровае жыццё, можа зразумець і адчуць усе цяжкасці, якія выпалі на долю А.Міцкевіча.

Паэт толькі ў снах мог бачыць родную прыроду, хадзіць па сваёй спакутаванай зямлі, адчуваць пах маладой травы ў полі, бачыць бег празрыстых вод Нёмана, чуць уздым таямнічых хваль возера Свіцязь. Гэта была і яго трагедыя: быць адарваным ад роднага краю, а сэрцам, вершамі жыць там, на Бацькаўшчыне. І гэтыя ўспаміны, крылатыя думы, цудоўныя сны, поўныя суму аб Радзіме, дапамагалі яму пісаць свае прыгожыя творы, такія, як балада "Свіцязянка", якой нельга не захапляцца, не здзіўляцца майстэрству паэта ў стварэнні мастацкай пераканаўчасці твора. Нельга не ўспомніць і паэму "Гражына", якая прысвечана нашай Лідчыне, мужнасці нашага народа. Тут кожны радок, здаецца, быў для паэта жывым, сваім болем, успамінам.

Многія творы Адама Міцкевіча пакінулі след у маім сэрцы, і ніколі не забудзецца гэтая сумная мелодыя чалавечага жыцця, якую можна бачыць і чуць у кожным творы, створаным сапраўдным сынам нашай Бацькаўшчыны.

*Ірына Мікель, 10 "Д" клас,*
*сярэдняя школа №16 г.Ліды.*





# Жыве Беларусь у замежжы

*Чытачы нашай газеты цікавяцца інфармацыяй аб тым, як захоўваюць сваю мову, культуру нашы суродзічы ў замежжы, як сёння жыве беларуская дыяспара, якія кантакты існуюць з беларускімі суполкамі ў іншых краінах.*

*На пытанні нашай рэдакцыі пра сітуацыю ў беларускім замежжы адказвае старшыня Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына"* ***Ганна Сумрач.***

**У апошні час у сродках масавай інфармацыі Беларусі амаль не з'яўляюцца паведамленні пра жыццё беларусаў замежжа. Ці азначае гэта, што панізілася актыўнасць беларускай дыяспары ў справе падтрымання кантактаў з Радзімаю, ці можа мы сталі менш увагі надаваць нашым замежным суродзічам?**

Сапраўды, сёння грамадзяне Беларусі не атрымліваюць дастатковай, праўдзівай інфармацыі пра сваіх землякоў, што жывуць у іншых раінах. Знікла амаль гэта тэма са старонак "Звязды", "Літаратуры і мастацтва", "Культуры". Істотна змянілася не да лепшага аблічча асноўнай інфармацыйнай крыніцы пра беларускае замежжа – газеты "Голас Радзімы". Такое становішча не спрыяе ўмацаванню так неабходнага сёння адзінства беларускай нацыі, падтрыманню трывалых сувязяў паміж людзьмі, якіх звязвае адна краіна паходжання, адна зямля, што дала жыццё ім ці іхнім продкам. Галоўная прычына – складаная сітуацыя ў самой Беларусі, дзе ўнутраныя палітычныя і эканамічныя праблемы засланілі ўсе іншыя накірункі жыцця. Актыўнасць беларускай дыяспары не знізілася, я б хацела падкрэсліць, што яна можа нават і павялічваецца. Праблемы сённяшняй Беларусі моцна хвалююць нашых суайчыннікаў у замежжы, большасць з іх не толькі імкнецца іх спасцігнуць, але нейкім чынам дапамагчы сваёй Бацькаўшчыне.

**У чым канкрэтна выяўляецца гэта дапамога?**

Найперш у кірунку аказання дапамогі пацярпелым ад наступстваў Чарнобыльскай аварыі. Захаванне здароўя дзяцей з чарнобыльскіх раёнаў клапоціць сёння беларуску з Канады Івонку Сурвілу, Міколу Прускага і Аляксандра Сільвановіча са Злучаных Штатаў, Аляксандра Надсана з Англіі. Яны прыклалі многа сілаў, каб дапамагчы Беларусі. Садзейнічалі аздараўленню беларускіх дзяцей нашы суполкі ў Аўстраліі, ЗША. Ахвярна працуе ў Клiўлендзе (ЗША) беларуска з Навагрудчыны Ірэна Каляда. Разам са сваім мужам яна арганізоўвае аздараўленне дзяцей з Беларусі ў Славеніі. Немалыя грошы на аплату ўтрымання дзяцей у летніку яны зарабляюць самі. Разам з нашым Згуртаваннем "Бацькаўшчына" сп.Ірэна і надалей будзе прадаўжаць гэтую важную працы.

Ёсць добрыя прыклады і ва ўсходнім замежжы. Беларус з г. Сургута Цюменскай вобл. (Расея) Анатоль Сілівончык актыўна ўдзельнічае ў праграмах "Бацькаўшчыны" па духоўнаму адраджэнню Беларусі. Ён быў адным з галоўных фундатараў працы па адраджэнню вобраза рэліквіі беларускага народа – Крыжа святой Еўфрасінні Полацкай. Створаны пад яго кіраўніцтвам грамадскі фонд Жыватворнага Крыжа святой Еўфрасінні Полацкай разам з намі прыме ўдзел у рэканструкцыі Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра ў Полацку. Рэальную дапамогу аказвае А.Сілівончык жыхарам сваёй роднай вёскі на Гомельшчыне, для якіх ён набыў мікрааўтобус і аплочвае яго ўтрыманне. Цяпер яго землякі могуць карыстацца транспартам дзеля штодзённых патрэбаў, каб не быць адрэзанымі ад свету з-за адсутнасці маршрутных аўтобусаў.

Як важную для Беларусі можна ацэньваць і працу тых замежных беларусаў, якія імкнуцца спрыяць эканамічным кантактам нашай краіны з іншымі дзяржавамі. Дзякуючы іх намаганням у некаторых краінах замежжа створаны беларускія гандлёвыя дамы, праз якія можа быць наладжаны абмен таварамі. На жаль, мусім заўважыць, што актыўнасць нашых суайчыннікаў значна пераважае сустрэчны рух з боку Беларусі. З-за адсутнасці падтрымкі беларускіх уладаў не ўсе з іх эфектыўна працуюць (Якуцк і інш.).

**Вядома, што ў беларускім замежжы жыве 3,5 млн. нашых суродзічаў і дзейнічала недзе восем дзесяткаў беларускіх суполак. Ці ёсць змены ў гэтай колькасці, ці ствараюцца новыя арганізацыі?**

Гэта колькасць прыкладна захоўваецца сёння і сведчыць, што беларуская прысутнасць у свеце пакуль не знікне. Новыя арганізацыі ствараюцца пераважна ва ўсходняй дыяспары, дзе працягваецца працэс самавызначэння беларусаў і арганізацыйнае афармленне беларускага руху. Найбольш актыўна гуртуюцца беларусы рэгіёнаў Сібіры, нядаўна мы атрымалі звесткі аб намеры стварыць беларускую суполку ў Іжэўску (Удмуртыя).

Зараз ідзе падрыхтоўка да правядзення з'езда беларусаў Расеі. У гэтай краіне жыве прыкладна 2 млн. нашых землякоў, многа дзе існуюць беларускія аб'яднанні – Масква, С-Пецярбург, Комі, Калінінград, Навасібірск, Кемерава, Якуцк і інш. месцах. На жаль пакуль не здолелі арганізавацца суполкі ў рэгіёнах Расеі, дзе жыве этнічнае беларускае насельніцтва – Смаленшчына, Браншчына, Пскоўшчына. Набходна стварэнне агульнага каардынацыйнага органа беларусаў Расеі, які не толькі аб'яднаў бы нашу дыяспару ў гэтай краіне, але і прадстаўляў бы яе інтарэсы перад уладамі Расейскай Федэрацыі і перад уладамі Беларусі. Спадзяёмся, што на з'ездзе удасца гэта зрабіць, тады і Згуртаванне "Бацькаўшчына" лягчэй будзе працаваць.

Плённа прадаўжаюць сваю дзейнасць беларускія арганізацыі ў краінах Балтыі – Летуве, Латвіі, Эстоніі. У мінулы годзе быў праведзены трэці з'езд беларусаў краін Балтыі ў Вільні. Нядаўна свой 10-гадовы юбілей адзначыла Беларуска-эстонскае згуртаванне ў Кохтла-Ярве. Менавіта ў краінах Балтыі дзейнічаюць беларускія навучальныя ўстановы: у Вільні – беларуская гімназія, у Рызе – беларуская школа.

У заходняй дыяспары паранейшаму актыўна працуюць беларускія суполкі ЗША, Канады, Аўстраліі, Англіі, Францыі, Польшчы, Чэхіі. У сувязі з новай хваляй эміграцыі з Беларусі на Захад да гэтых арганізацый далучаюцца свежыя сілы.



Ганна Сурмач

**Выглядае, што клопатаў у Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына не паменела. Як сёння даводзіцца працаваць вашай грамадскай арганізацыі, якія планы маеце намер рэалізаваць у бліжайшай будучыні?**

ЗБС "Бацькаўшчына" мае шырокае поле дзейнасці і асягаць яго сёння вельмі не проста. Наша праца патрабуе намаганняў, добрага ведання справы, а таксама значных матэрыяльных сродкаў на паштовыя, тэлефонныя кантакты з замежжам, выезды ў іншыя краіны, прыём прадстаўнікоў замежжа ў нашай сядзібе. Фінансавыя сродкі мы павінны здабываць самі. "Бацькаўшчына" – грамадскае аб'яднанне і цалкам знаходзіцца на ўласным забяспячэнні, дзяржаўных сродкаў мы не атрымліваем. Самастойнасць абавязвае да высокай адказнасці за працу, якую выконваем. У наступным годзе "Бацькаўшчыне" споўніцца 10 гадоў. За гэты час нам удалося рэалізаваць асноўную задачу, дзеля чаго стваралася Згуртаванне. "Бацькаўшчына" аб'яднала беларускую дыяспару ў свеце, злучыла яе з асноўнай часткай нацыі, што жыве на Радзіме, у адзіную сусветную беларускую супольнасць. ЗБС правяло два з'езды беларусаў свету у 1993, 1997 гг. і мноства іншых вялікіх мерапрыемстваў з удзелам беларусаў з розных краінаў. Згуртаванне пастаянна ўдзельнічае ў нацыянальным, культурным жыцці ў самой Беларусі. Па ініцыятыве і значнымі намаганнямі з нашага боку быў адноўлены вобраз духоўнай рэліквіі беларусаў – Крыж святой Еўфрасінні Полацкай. ЗБС выдала кнігу пра гісторыю Крыжа, а таксама многа іншай літаратуры. На працягу ўсіх гэтых гадоў актывісты "Бацькаўшчыны" аказвалі дапамогу ў стварэнні беларускіх арганізацый у замежжы, падтрымлівалі іх дзейнасць, іх сувязі з Радзімаю.

У бягучм годзе нас таксама чакае вялікая праца. Прадстаўнікі ЗБС будуць удзельнічаць у мерапрыемствах, што ладзяць замежныя беларускія суполкі. Чакаем таксама і ў сябе гасцей з замежжа. Акажам дапамогу беларускім дзецям у іх аздараўленні пасля цяжкай зімы. У ліпені плануем правесці паседжанне Вялікай рады "Бацакаўшчыны", дзе будуць падведзены вынікі працы за два гады пасля апошняга з'езду.

"Бацькаўшчына" у мінулым годзе выступіла з ініцыятываю ўрачыста адзначыць у Беларусі завяршэнне другога тысячагоддзя. Быў створаны Нацыянальны арганізацыйны камітэт, распрацавана Праграма "Беларусь" – 2000 гадоў", дзе прадугледжаны праекты, скіраваныя на ўшанаванне гістарычнага шляху беларускага народа за два тысячагоддзі. Удзел у рэалізацыі гэтай Праграмы будзе займаць важнае месца ў дзейнасці ЗБС на бліжэйшыя гады. Запрашаем да гэтай працы і беларускую дыяспару (наш адрас: Рэспубліка Беларусь, 220050, г.Менск, вул.Рэвалюцыйная, 15, тэл/факс (172) 76-91-94).

**Ці дастаткова, на вашу думку, аказвае падтрымку беларускай дыяспары наша дзяржава?**

Безумоўна, клопат пра сваю дыяспару ў свеце павінны праяўляць не толькі грамадскасць , але і дзяржаўныя улады краіны-маці. На пачатку 90-ых гадоў, калі стварылася "Бацькаўшчына", адносіны да замежных беларусаў у самой Беларусі пачалі мяняцца да лепшага. Дзяржаўныя ўлады даволі актыўна тады займаліся кантактамі з замежжам. У апошнія гады гэта актыўнасць знізілася.

Сёння працу з беларускай дыяспарай вядзе дзяржаўны Камітэт па справах нацыянальнасцей і рэлігій, дзе ёсць спецыяльны аддзел. Стварэнне такой дзяржаўнай структуры, безумоўна, можна ацэньваць як станоўчы факт. Хацелася б толькі, каб яе дзейнасць была больш адчувальнай і плённай найперш у кірунку вырашэння тых праблемаў работы з дыяспараю, якія могуць быць вырашаны толькі дзяржаўнымі ўладамі. Маю на ўвазе заканадаўчую базу. На сённяшні дзень у Беларусі няма заканадаўчых дакументаў, якія рэгулявалі б узаемаадносіны краіны з дыяспараю. У канцы мінулага года былі прыняты Закон Рэспублікі Беларусь "Аб іміграцыі". Дакументам уведзены парадак уезду ў краіну на пастаяннае жыхарства. Здаецца, што было б натуральным, каб гэты заканадаўчы дакумент уключыў у сябе палажэнне аб праве беларусаў на спрошчаную працэдуру вяртання на Радзіму ў параўнанні з іншымі замежнікамі. Аднак, ільготаў для нашых суродзічаў новы закон не прадугледжвае.

**Як ставіцца беларуская дыяспара да той неспрыяльнай сітуацыі, у якой апынулася сёння на Бацькаўшчыне родная мова?**

Найперш мова дапамагла беларусам захаваць на чужыне сваю адметнасць. Нашы суродзічы жывуць у краінах, дзе нацыянальныя мовы лічацца вышэйшымі каштоўнасцямі і ўжыванне іх не сустракае ніякіх перашкодаў. Заходняя эміграцыя доўгі час перахоўвала "тарашкевіцу", яна паказала нам добры прыклад павагі да роднага слова, захаваўшы яго ў чысціні далёка ад Радзімы. Здзіўленне і абурэнне перажываюць нашы землякі, калі пад час прыезду ў Беларусь не чуюць тут матчынага слова. Яны ўсяляк падтрымліваюць намаганні беларускай інтэлігенцыі абараніць нашу мову ад заняпаду. З глыбокай павагаю ставяцца да дзейнасці Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны. Многія чытаюць "Наша слова" і мне хацелася б пажадаць вашай папулярнай у беларускім замежжы газеце надалей несці цеплыню роднага слова ва ўсе канцы свету, куды закінуў лёс нашых братоў і сёстраў.





# Слова да беларускага народа

## Нацыянальнага грамадскага арганізацыйнага камітэта “Беларусь — 2000 гадоў”

### ГІСТАРЫЧНЫ ШЛЯХ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫІ І ДЗЯРЖАЎНАСЦІ

*Да цябе, Народ Беларускі, да вас, нашчадкі далёкіх продкаў, што пражылі тысячагоддзі на нашай старажытнай зямлі, Слова Нацыянальнага грамадскага арганізацыйнага камітэта, створанага па ініцыятыве Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына”.*

*Набліжаецца да канца другое тысячагоддзе ад Нараджэння Хрыстовага. Завяршэнне такой гістарычнай эпохі мае важнае значэнне ў развіцці Чалавецтва. Многія народы і дзяржавы імкнуцца зараз падсумаваць дасягненні і страты, абазначыць сваё месца ў свеце.*

*Толькі невялікай колькасці пакаленняў даравана лёсам жыць на мяжы тысячагоддзяў. Менавіта нам і належыць выканаць абавязак перад нашчадкамі, здолець асэнсаваць пройдзены беларускім народам шлях, першкінуць мост у новае тысячагоддзе.*

*Надзея і падстава да таго — у слаўных традыцыях, што на вякі замацаваны ў душах і пісьмёнах нашых суродзічаў. Нашы продкі адвагай, розумам і рупнасцю будавалі, мацавалі, ахоўвалі сваю Айчыну і Дзяржаву, каб застацца ў гісторыі, не знікнуць у забыцці.*

*На мяжы тысячагоддзяў акінем поглядам сваё вялікае гістарычнае мінулае, зразумеем і вызначым, хто мы сёння ёсць --Народ Беларусі.*

### 1. НАЦЫЯ

Карані беларускай нацыі ідуць у глыбокую даўніну. Беларусы належаць да старажытных народаў Еўропы. Наша народнасць, як і большасць іншых, сфармавалася у выніку працэсаў міграцыі старажытных насельнікаў Азіі і Еўропы, сінтэзу плямёнаў, што жылі ў розныя часы на абшарах, якія займае сённяшняя Беларусь.

З археалагічных крыніцаў вядома, што самым старажытным насельніцтвам на тэрыторыі Беларусі былі еўрапоіды-абарыгены. Каля трох тысяч гадоў таму на тэрыторыю будучай Беларусі прыйшлі фіна-угорскія плямёны з-за Урала. У II тыс. да н.э. Еўропу пачалі насяляць інда-еўрапейскія плямёны з Азіі. Спачатку на нашы землі прыйшлі індаеўрапейскія плямёны балтаў, яны асімілявалі абарыгенаў і фіна-угорцаў.

Першыя пісьмовыя звесткі аб нашых продках сустракаюцца ў старажытнагрэцкага гісторыка і географа Герадота. Ён апісаў вайну персідскага цара Дарыя са Скіфіяй, што адбывалася у 513 г. да н.э. на тэрыторыі сучаснай Украіны. На поўнач ад скіфаў, сцвярджае Герадот, прыкладна на тэрыторыі сучаснай Беларусі жылі неўры або нарцы, якія засяліліся каля будзінаў ці гудзінаў.

На пачатку I тыс. н.э. на большай частцы тэрыторыі нашай краіны жылі плямёны балтаў: яцьвягі (Гарадзенская і часткова Берасцейская землі), лотва (Віцебшчына і Усходняя Меншчына), дайнова (Нарачанска-Маладзечанскі край), літва (Верхняе і Сярэдняе Панямонне) і інш.

З VI ст. тэрыторыю Беларусі пачалі засяляць славянскія плямёны, што вылучыліся з інда-еўрапейскага этнасу і першапачаткова асталяваліся ў Еўропе. З цягам часу яны асімілявалі балтаў. Асноўныя карані інда-еўрапейскага радаводу — славянскі і балцкі, а таксама фіна-угорскія элементы вызначылі этнічную адметнасць нашага народу, яго розoctober ад рускага, украінскага і іншых славянскіх народаў. У савецкія часы такая асаблівасць этнагенезу беларусаў катэгарычна адмаўлялася. У нашай гістарычнай навуцы панавала надуманая канцэпцыя аб існаванні старажытнарускай народнасці, з якой нібы паходзілі тры братнія славянскія народы — рускі, украінскі і беларускі. Так навязвалася ідэя, што гэтыя народы нібыта абавязаны жыць заўсёды ў адной дзяржаве. Але, як сведчаць гістарычныя крыніцы, у кожнага з іх быў свой шлях нацыянальнага фармавання.

Н[illegible] Беларусі рассяліліся некалькі славянскіх плямёнаў: крывічы (Віцебшчына, Смаленшчына, Віленшчына, часткова Гарадзеншчына і Невельшчына), дрыгавічы (Цэнтральная Беларусь і Паўночнае Палессе), радзімічы (Магілёўшчына, Гомельшчына і Заходняя Браншчына). Жылі тут і другія ўсходнеславянскія плямёны — драўляне, славены, валыняне.

З VI-VII ст.ст. пачынаецца доўгі працэс кансалідацыі славянскіх плямёнаў і асіміляванага імі балцкага насельніцтва ў адзіную этнічную супольнасць. Спрыяла гэтаму ўтварэнне дзяржаўных аб’яднанняў.

У канцы X ст. крывічы стварылі нашу першую дзяржаву — Полацкае княства. З сярэдзіны XIII ст. асноўная роля ў дзяржаўным будаўніцтве на нашых землях перайшла да Панямоння, дзе жылі славянскія плямёны крывічаў і драгавічоў, а таксама балцкія — літва і яцьвягі. Тут узнікла новая славянска-балцкая дзяржава — Вялікае Княства Літоўскае (ВКЛ), да якой пазней далучыўся і Полацк. На працягу амаль паўтысячы гадоў існавання ВКЛ на тэрыторыі будучай Беларусі сфармавалася адзіная народнасць — ліцвіны (ліцьвіны). Яна складала большую частку насельніцтва Княства, што жыла на асноўнай тэрыторыі дзяржавы ад Гародні да Вільні, ад Полацка, Мсціслава, Гомеля да Турава, Пінска, Бярэсця. Назва “ліцвіны” стала гістарычным этнонімам беларусаў. На ўкраінах ВКЛ жылі іншыя народы, якія захоўвалі сваю этнічную адметнасць, сярод іх — балцкае насельніцтва (жамойты, аўкштайты), насельніцтва ўкраінскіх земляў. У сувязі з гэтым існаваў і палітонім “ліцвіны”, які азначаў дзяржаўную прыналежнасць усіх жыхароў ВКЛ.

Пад канец XVIII ст. Вялікае Княства Літоўскае, якое на той час ўваходзіла ў канфедэратыўную дзяржаву — Рэч Паспалітую, страціла сваю дзяржаўную незалежнасць у выніку падзелаў канфедэрацыі паміж Расеяй, Аўстрыяй і Прусіяй. Землі ВКЛ былі далучаны да Расейскай імперыі. Змена палітычнай сітуацыі адмоўна паўплывала на нацыянальнае жыццё народа. Царскія ўлады праводзілі на нашых тэрыторыях палітыку татальнай русіфікацыі. Паступова знікла з ужытку сама назва насельніцтва “ліцвіны”. У складзе Расейскай імперыі за нашымі землямі замацавалася назва “Белая Русь”, “Беларусь”, якая з’явілася яшчэ ў XIV ст. і ўжывалася ў адносінах да ўсходніх раёнаў нашай краіны, жыхароў якіх называлі “русінамі”. Назва не мела дачынення да расейскіх земляў, што ў той час былі вядомыя як Масковія. Менавіта, усходнія губерніі (Віцебская і Магілёўская) першымі былі далучаны да Расейскай імперыі пасля падзелу 1772г. На іх аснове было створана Беларускае генерал-губернатарства. У выніку наступных падзелаў на тэрыторыі Цэнтральнай і Заходняй Беларусі ўзніклі яшчэ два генерал-губернатарствы: Літоўскае і Гарадзенскае. Аднак гэтыя назвы не адпавядалі стратэгічным мэтам імперскіх уладаў. Пасля 1840 г. у адносінах да нашых зямель пачало ўжывацца абразлівае найменне — “Северо-Западный край”, як правінцыі Расейскай імперыі без усялякай нацыянальнай адметнасці. Такім чынам, ліцвіны-беларусы перасталі існаваць як асобная народнасць у афіцыйным жыцці Расеі. Але, у рэальнасці яны прадаўжалі захоўваць сваю нацыянальную асаблівасць, культуру, мову.

У другой палове XIX ст. нацыянальная патрыятычная інтэлігенцыя, якая выступала за адраджэнне свайго народа і яго дзяржаўнасці, аднавіла назву “Беларусь”, “беларусы”, як сімвал пратэсту супроць расейскага ўціску. Пад гэтаю назваю наш народ увайшоў у XX ст., замацаваў яе за сабою ў сусветнай супольнасці і ўступае з ёю ў новае тысячагоддзе. Але нам неабходна памятаць, што мы — нашчадкі ліцвінаў, прадаўжальнікі іх патрыятычных спраў.

Нацыянальны і сацыяльны прыгнёт, які адчуваў на сабе беларускі народ пад уладаю расейскага царызму, усё ж не мог стрымаць жывую плынь далейшага этнічнага развіцця нацыі ў XIX ст. Разбурэнне натуральнай гаспадаркі, развіццё новых эканамічных адносінаў стварылі магчымасці для пашарэння гаспадарчых і культурных кантактаў на беларускіх землях. Міграцыя насельніцтва садзейнічала далейшаму фармаванню агульнай культуры, мовы, умацаванню этнічных сувязяў і нацыянальнаму самавызначэнню людзей. У гэтых умовах у беларусаў, як і ў іншых славянскіх народаў, адбываўся працэс далейшага пераўтварэння народнасці ў адзіную беларускую нацыю — больш дасканалую форму самавызначэння этнасу.

Страта ўласнай дзяржаўнасці спачатку часткова ў складзе Рэчы Паспалітай пад канец яе існавання, а затым поўнасцю ў Расейскай імперыі, прывяла да цяжкіх наступстваў у жыцці беларускай нацыі. Прынцыповае значэнне мелі змены ў сацыяльным складзе беларускага народа. Сумныя вынікі перапісу 1897 г. сведчаць пра тое, што беларусы ўжо не з’яўляліся гаспадарамі на сваёй Бацькаўшчыне, як гэта было ў часы незалежнага існавання Вялікага Княства Літоўскага. У важнейшых галінах эканамічнага жыцця — землеўладанні, прамысловасці, гандалі амаль не было беларускай прысутнасці. 95% беларусаў належала да сялянскага саслоўя і знаходзілася ў паднявольным стане. Сярод гарадскога насельніцтва налічвалася толькі 14,5% беларусаў. Варта ўспомніць, што ў ВКЛ у XVI ст. беларусамі было 80% гараджан. Адпаведна і беларускае нацыянальнае жыццё было звездзена да этнаграфічнага ўзроўню, як кажуць “да лапцяў і спадніцаў”. Так нас, старажытны еўрапейскі народ, які меў сваю паважаную ў Еўропе дзяржаву з моцнай гаспадаркай, дэмакратычным ладам жыцця, высокаразвітай культураю, паступова ператварылі ў “мужыцкую нацыю”.

Далейшае жыццё было не лепшым. Нацыянальнае адраджэнне беларусаў у пачатку XX ст., якое стала магчымым ва ўмовах крызісу і развалу Расейскай імперыі, было жорстка перапынена савецкімі палітычнымі рэпрэсіямі. У выніку, амаль цалкам была вынішчана маладая беларуская нацыянальная інтэлігенцыя, беларускія дзяржаўныя і гаспадарчыя кіраўнічыя кадры. У савецкія часы беларусы, як і іншыя народы Савецкага Саюза, перажылі таксама цяжкія наступствы палітыкі дэнацыяналізацыі і зліцця ўсіх народаў у адзіны савецкі народ.

З пазіцыі сённяшняга дня добра відаць, што за два стагоддзі страты дзяржаўнасці беларуская нацыя амаль у кожным пакаленні давала плеяду нацыянальна свядомых выдатных людзей, і кожны раз большасць з іх бялітасна знішчалася, або выганялася з краіны. Наш горкі досвед яскрава сведчыць аб тым, што паўнавартаснае развіццё нацыі можа забяспечыць толькі ўласная незалежная дзяржаўнасць.

Лепшыя сыны Беларусі разумелі гэта і змагаліся за аднаўленне дзяржаўнай незалежнасці Бацькаўшчыны. Перад намі стаіць зараз праблема замацавання падараванай нам лёсам дзяржаўнай самастойнасці, а разам з тым захавання самой беларускай нацыі.

Складанасці гістарычнага лёсу не перапынілі этнічнай кансалідацыі нашага народу. Ён здолеў аформіцца ў самастойную нацыю, якая мае сваю тэрыторыю, мову, культуру, жыве ў адзінай эканамічнай прасторы. Беларускі этнас вызначаецца адметным нацыянальным характарам, ментальнасцю, іншымі толькі яму ўласцівымі асаблівасцямі, што адрозніваюць яго у сусветнай супольнасці народаў. Найбольш характэрнымі нацыянальнымі рысамі нашага народа з’яўляюцца якасці, якія высока шануюцца ў чалавечым грамадстве: дабрыня, працавітасць, адказнасць, цярплівасць, лагоднасць, агіда да гвалту і жорсткасці, гасціннасць. Аб сутнасці душы беларусаў дае ўяўленне іх схільнасць да светлых колераў адзення, мілагучныя душэўныя песні, мяккія гуманныя казкі і легенды, увесь беларускі фальклор. Аднак у складаных сітуацыях беларусы заўсёды праяўлялі незвычайную стойкасць, мужнасць, ваярскую здольнасць абараняць Радзіму, сваю сям’ю і родную хату. Нашы продкі не ўпадалі ў адчай, а мужна і ўпарта пераадольвалі цяжкасці, захоўвалі і прадаўжалі жыццё ў самых безнадзейных абставінах. Такія якасці нашага нацыянальнага характару ўратавалі беларускую нацыю ад знішчэння і даюць нам цвёрдую ўпэўненасць, што мы здолеем захавацца ў будучыні.

Істотны ўплыў на фармаванне нацыянальнага характару беларусаў аказала рэлігія. Нашы старажытныя продкі маліліся паганскім багам. Галоўным паганскім богам быў грозны Пярун – бог грому і маланкі, ён лічыўся апякуном вайсковай славы. Шанаваліся таксама – Вялес (бог жывёлагадоўлі і багацця), Ярыла (бог вясны і ўрадлівасці), Сотвар (бог сонца), Жыжаль (бог агню). Старажытныя людзі захоўвалі паганскія абрады – гуканне вясны, Купалле, паханванне стралы; прынасілі сваім багам сімвалічныя ахвяры, маліліся каля святых камянёў. Ад паганства засталіся ў нас звычкі варажбы, абярогі.

Святло хрысціянскай веры прыйшло на нашы землі ў канцы X – пачатку XI ст. Першымі прынялі хрост жыхары Полацкага і Тураўскага княстваў. Яны былі далучаны да хрысціянства святарамі, што прыйшлі з Кіева і былі выхадцамі з Візантыі і Балгарыі. Смаленскае княства прыняло хрысціянства ў пачатку XI ст. У кожным княстве ствараліся асобныя епархіі на чале з епіскапамі. Адной з першых была заснавана ў 992г. Полацкая епархія. Епіскапы падпарадкоўваліся кіеўскаму мітрапаліту, а праз яго канстанцінопальскаму патрыярху (Візантыя). Побач з усходнім (візантыйскім) абрадам хрысціянства на тэрыторыі Беларусі распаўсюджваўся і заходні (рымскі). Тураўскі князь Святаполк у 1010 г. разам з падданымі прыняў хрышчэнне па заходняму абраду.

У адрозненне ад суседніх земляў хрысціянства распаўсюджвалася ў нас пераважна без прымусу. Гісторыя не захавала фактаў гвалтоўнага насаджэння ў Беларусі хрысціянскай веры. Доўгі час яна мірна ужывалася тут з глыбокімі паганскімі традыцыямі.

*(Працяг у наступных нумарах)*

